*Пікеты ў Жодзіне і Пінску (стар. 2)*
*Нобелеўская прэмія па медыцыне паедзе ў Амерыку (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты СВАБОДА
Наклад 31.880
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 8 кастрычніка 1997 г. № 111 Кошт свабодны

## Прэм'еры сустрэнуцца ў Бішкеку

**Прэм'ер-міністр Сяргей Лінг збіраецца прыняць удзел у сустрэчы кіраўнікоў урадаў дзяржаў СНД, якая заўтра пачынаецца ў Бішкеку — сталіцы Кыргызстана.**

На яе выносяцца 17 пытанняў. Сярод іх — аналітычны даклад міждзяржаўнага эканамічнага камітэта пра становішча інтэграцыйных працэсаў у СНД, палажэнне аб камітэце СНД па канфліктных сітуацыях, канвенцыя аб транснацыянальных карпарацыях.

Саміт у Бішкеку павінен завяршыць грунтоўную падрыхтоўку сустрэчы кіраўнікоў краін-удзельніц СНД, якая прызначана на 22—23 кастрычніка ў Кішынёве. Вельмі добра, што не ў Маскве, інакш самалёт прэзідэнта Лукашэнкі мог бы зноў не атрымаць паветранага калідору.

**А.Д.**

## Выйсці са строю!

**Каля 90 афіцэраў беларускага войска будуць прадстаўленыя да звальнення ў запас па службовай неадпаведнасці.**

Такі вынік першага этапа атэстацыі афіцэрскага саставу беларускага войска. За тры месяцы было атэставана больш за 8,5 тысячы чалавек — малодшых афіцэраў і афіцэраў, за якімі былі зафіксаваныя недахопы ў службе і паводзінах. Як паведамілі ў прэс-службе міністэрства абароны, з 1 кастрычніка ва Узброеных сілах Беларусі пачалася атэстацыя старшага афіцэрскага саставу — са званнямі ад маёра і вышэй.

*БелаПАН*

## Салана не прыедзе

### *Візіт генсека NATO пераносіцца на «няпэўны тэрмін»*

Генеральны сакратар *NATO* Хаўер Салана адклаў свой візіт у Мінск. Як вядома, па запрашэнні прэзідэнта Лукашэнкі кіраўнік Паўночнаатлантычнага альянса збіраўся наведаць Беларусь 22—23 кастрычніка. У міністэрстве замежных справаў пакуль не раскрываюць прычыны пераносу візіту *«на няпэўны тэрмін»*. У прыездзе генсека *NATO* зацікаўленая менавіта наша краіна, якая да гэтага часу не падпісала дакумент аб узаемаадносінах з гэтай міжнароднай структурай. Суседнія з намі краіны гэта ўжо зрабілі — Расія мае свой акт, а Украіна хартыю. Раней чыноўнікі МЗС тлумачылі адставанне Беларусі тым, што, маўляў, *«мы не можам сур'ёзна прыступіць да дыялогу з NATO, не ўбачыўшы дакументаў, падпісаных Расіяй і Украінай»*.

На нядаўнім саміце ў Вільні прэзідэнт Лукашэнка распавёў, што дакумент, які імкнецца падпісаць з *NATO* Беларусь, будзе нечым нагадваць расійскі і ўкраінскі, але ў ім вызначаецца *«свая спецыфіка»*. Але дата яго падпісання зноў адкладваецца. Па звестках БелаПАН, перанос візіту Саланы *«напрамую звязаны з нядаўнім рашэннем Еўрасаюза аб увядзенні санкцый адносна Беларусі»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## «Калідорнай вайны» не будзе

**Афіцыйны Мінск не будзе прымаць ніякіх крокаў у адказ за зрыў візіту прэзідэнта Беларусі ў Ліпецк і Яраслаўль.**

Пра гэта заявіў прэзідэнт Лукашэнка падчас сустрэчы з дэлегацыяй камуністычных партый розных краін. Дэлегацыі замежных кампартый прыбылі ў Мінск для ўдзелу ў 34-ым з'ездзе кампартыі Беларусі, які адбыўся ў мінулую суботу. *«Многие ждали от меня реакции, например, не дать воздушного коридора премьер-министру Виктору Черномырдину, который недавно вернулся в Москву из Голландии»*, — сказаў А.Лукашэнка. *«Нет, никаких подобных шагов не будет, поскольку именно на них рассчитывают те политические силы, которые спровоцировали и организовали срыв визита в Липецк и Ярославль»*, — адзначыў беларускі прэзідэнт.

Прагназуючы далейшы ход развіцця беларуска-расійскіх адносінаў, А.Лукашэнка выказаў меркаванне, што наперадзе *«тяжелейшие испытания»*. *«Миллиарды долларов, направленные на развал СССР, продолжают работать»*, — заявіў прэзідэнт. Ён выказаў сваё неразуменне палітыкі, якую праводзіць Крэмль у адносінах да Беларусі. Прэзідэнт сцвярджае, што па выніках абмеркавання розных праблемаў СНД кіраўнікамі дзяржаваў Садружнасці ў ходзе апошняга саміту ў Маскве ён зрабіў выснову, што *«России не нравится политика»*, праводзімая, у прыватнасці, прэзідэнтамі Казахстана, Туркменістана, Узбекістана, Украіны, а таксама краін Балтыі ў сувязі з іх самастойнасцю. *«Белоруссия, проводящая откровенно пророссийскую политику — также не нравится!»* — падкрэсліў А.Лукашэнка. *«Так какая же политика им нравится?»* — сказаў прэзідэнт Беларусі.

*Інтэрфакс*



**У Мінску будуць пратэставаць супраць беднасці.**

У нядзелю, 12 кастрычніка, па ініцыятыве групы прадстаўнікоў апазіцыйных партыяў у Мінску адбудуцца шэсце і мітынг з мэтай *«выказаць пратэст супраць збяднення людзей Беларусі»* — так анансуюць акцыю самі арганізатары. Мінскі гарвыканкам даў дазвол на шэсце — пачнецца яно ў 11 гадзінаў ад станцыі метро «Трактарны завод».

### *А.Лукашэнка:*

## «Мы не будзем абцяжарваць сябе пошукам доказаў»

**Выступаючы ў Магілёве на жалобнай цырымоніі падчас пахавання шэфа службы кантролю Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага, прэзідэнт Лукашэнка даў заказчыкам забойства 10 дзён на тое, каб яны прызналіся ў злачынстве.**

У сваёй прамове Лукашэнка асабліва падкрэсліў, што Мікалуцкі быў чалавекам, верным прэзідэнту і гатовым выканаць любы яго загад. Менавіта на такіх людзей, па словах Лукашэнкі, разгарнулася *«дзікае паляванне»*. Забойства свайго чалавека Лукашэнка расцаніў, як выклік асабіста яму і заявіў, што прымае гэты выклік. Калі праз 10 дзён імёны арганізатараў забойства не стануць вядомымі, *«найдрабнейшыя правапарушэнні будуць бязлітасна карацца»* і *«мы не будзем абцяжарваць сябе пошукам доказаў»*. Праўда, Лукашэнка зрабіў агаворку, што гэта будзе рабіцца *«у рамках закону»* — але як у рамках закону можна абыйсціся без пошуку доказаў, ён не растлумачыў.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Трымаць Шарамета за кратамі страціла сэнс

**У панядзелак, 6 кастрычніка, адвакаты Міхаіл Воўчак і Гары Паганяйла наведалі ў гродзенскай турме Паўла Шарамета.**

Ён расказаў, што выпадкова пачуў з турэмнага калідора па радыё, як Лукашэнка заявіў, што Шарамет нібыта сам адмовіўся ад паслуг адвакатаў і ўвогуле не хоча выходзіць з турмы. Павел быў здзіўлены: *«Хто мог нагаварыць прэзідэнту такой лухты, бо ўсё гэта, канечне ж, няпраўда»*.

Пасля наведання турмы адвакаты далі інтэрв'ю нашаму карэспандэнту. Яны лічаць, што вялікай перамогай стала тое, што Лукашэнка, нарэшце, прызнаў: Шарамет не з'яўляецца небяспечным для грамадства і яго трэба выпусціць. А калі так, дык далейшае ўтрыманне Паўла за кратамі будзе біць па пазіцыі прэзідэнта. Бо ў турме трымаюць менавіта тых людзей, якія ўяўляюць небяспеку для грамадства, — гавораць адвакаты.

Хто ж тады рэальна можа вызваліць П.Шарамета? Абласны пракурор Л.Цярэшчанка. Аднак ён пакуль не азнаёмлены са справай. У такім выпадку свае меркаванні адносна змянення Паўлу меры стрымання можа прадставіць пракурору следчы Б.Рагімаў, які вядзе справу. І тады пракурор мог бы даць на гэта сваю санкцыю.

Гары Паганяйла лічыць, што ў следства няма галоўнага — падмурку, на якім будуецца абвінавачанне. Нават калі нехта са здымачнай групы ОРТ сапраўды пераступіў мяжу і вярнуўся назад, у яго дзеяннях не было злачыннай мэты, — напрыклад, пранесці наркотыкі, зброю або правесці ў Літву групу нелегалаў. Пераступіць мяжу і адразу вярнуцца назад — яшчэ не значыць здзейсніць злачынства, — гаворыць адвакат. Падобныя выпадкі можна лічыць парушэннем рэжыму мяжы, за што належыцца адміністратыўнае пакаранне. Усе тры члены здымачнай групы ОРТ якраз яго і атрымалі ў выглядзе папярэджання.

Учора М.Воўчак і Г.Паганяйла былі яшчэ раз выкліканы ў Гродна на 14 гадзін да следчага. Гэта звязана з тым, што ў панядзелак, 6 кастрычніка, закончанае на мінулым тыдні следства было зноў адноўлена. Адвакаты лічаць гэта фармальнасцю. Напэўна, будзе канчаткова, у трэці раз, прад'яўленае абвінавачанне Паўлу Шарамету. Аднак нічога новага ў абвінаваўчым акце, па ўсёй верагоднасці, не павінна быць.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## На бензакалонках зноў чэргі

### *Дасведчаныя людзі тлумачаць дэфіцыт бензіну разлаванасцю Крамля на Лукашэнку*

Апошнія некалькі тыдняў Беларусь перажывае цяжкасці з высокаактанавым бензінам, у прыватнасці маркі АІ-92. У кастрычніку становішча значна пагоршылася — дэфіцыт з 92-м, самым папулярным бензінам, стаў адчувальным не толькі ў правінцыі, але і ў сталіцы, дзе зноў узніклі чэргі на бензакалонках. У мінулую суботу на большасці заправак горада 92-га бензіну не было зусім, а там, дзе яго адпускалі, — стаялі чэргі.

Што здарылася і калі сітуацыя зменіцца ў лепшы бок? Іван Бамбіза, прэзідэнт канцэрна «Белнафтахім», ківае на Расію. Па ягоных словах, нафтаперапрацоўчыя заводы Беларусі (Мазырскі і Наваполацкі) не атрымалі за год амаль мільён тон расійскай нафты — гэта прыкладна 10% ад аб'ёму агульнай дамоўленасці. *«Пачынаючы з траўня штомесяц дэфіцыт складае 100 тысяч тон і становішча не выпраўляецца»*, — гаворыць Іван Бамбіза і ў якасці выратавання прапануе новыя схемы закупкі нафты ў расійскіх кампаніяў — без пасярэднікаў. Аднак Расія на гэтыя прапановы пакуль не пагаджаецца, скардзіцца прэзідэнт «Белнафтахіма».

Цікавасць, аднак, выклікае той факт, што Беларусь у канцы лета паставіла Маскве ў якасці дапамогі (ці падарунку) да юбілею расійскай сталіцы ажно 17 тысяч тон высокаактанавага паліва (гэтую лічбу прэзідэнт «Белнафтахіма» пацвердзіў у нядаўнім інтэрв'ю «Советской Белоруссии»). Для параўнання: прадпрыемству «Мінскаўтазапраўка», якая забяспечвае прыкладна 70% патрэбаў горада ў бензіне, штомесяц патрабуецца 4—5 тысяч тон АІ-92. У верасні з гэтых аб'ёмаў было атрымана толькі палова. За першы тыдзень кастрычніка — не больш 800 тон, што ставіць пад сумнеў выкананне графіку паставак бензіну і на гэты месяц. Атрымліваецца, што падарунак Маскве ўскладніў праблемы ў Мінску.

Як будуць выходзіць са становішча? Дырэктар «Мінскаўтазапраўкі» Віктар Тарасевіч запэўнівае, што гарадскія службы палівам будуць забяспечаныя цалкам. Што ж тычыцца прыватных спажыўцоў бензіну, то ім сапраўды давядзецца цяжка. Адзінае, што раіць сп.Тарасевіч, часова «пераключыцца» на 95-ты бензін, які хаця і даражэйшы, але на запраўках ёсць: *«Мы закупілі 95-га ажно 2 тысячы тон і знізілі цану на яго з 12 тысяч за літр да 11.500. Гэта ўсё, чым можам дапамагчы»*, — кажа В.Тарасевіч.

*«Праблема дэфіцыту з бензінам у тым, што не хапае сырой нафты. Але чаму яе недапастаўляюць — гэта ўжо палітычнае пытанне»*, — каментуе сітуацыю адказны супрацоўнік міністэрства паліва і энергетыкі, які пажадаў застацца неназваным. На ягоную думку, пакуль рана казаць аб эканамічнай блакадзе з боку Масквы, але некаторыя прыкметы такіх паводзінаў ужо ёсць. *«Мы занадта перабольшваем незалежнасць камерцыйных нафтавых кампаніяў Расіі ад палітычнага кіраўніцтва краіны»*, — упэўнены гэты спецыяліст. Ён сцвярджае, што расійскія нафтавікі вельмі ўважліва прыслухоўваюцца да голасу Крамля і рэагуюць на ўсе новыя інтанацыі, якія з'яўляюцца ў гэтым голасе. І таму тое, што адбываецца апошнім часам паміж Масквой і Мінскам, не можа не адбіцца на рынку паліва.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця пакуль не збіраецца адчыняць для Беларусі новыя крэдытныя лініі*

## Новых крэдытаў Беларусі не даюць

Пазіцыя кіраўніцтва Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця ў адносінах да Беларусі за апошнія паўгода крыху «змякчылася», але ў цэлым застаецца ранейшай, паколькі захоўваецца заклапочанасць палітычнай сітуацыяй у краіне і тэмпамі эканамічных рэформаў. Пра гэта ішла размова на перамовах у Лондане ў рамках Дзён эканомікі і культуры Беларусі, што завяршыліся ў мінулыя выходныя. Прадстаўнікі кіраўніцтва ЕБРР паінфармавалі беларускі бок аб тым, што на апошнім паседжанні савета дырэктараў ЕБРР быў прыняты дакумент, які вызначае стратэгію банка ў адносінах да Беларусі на бліжэйшую будучыню. Банк мае намер прадоўжыць пэўныя крэдытныя лініі, аднак новых адчыняць не збіраецца, пакуль у рэспубліцы не будзе лібералізаваны валютны курс, палепшаны інвестыцыйны клімат і нармалізаваныя адносіны з Еўрапейскім Саюзам.

Для даведкі: за час супрацоўніцтва ЕБРР падпісаў з Беларуссю пяць крэдытных пагадненняў на агульную суму ў 141,7 мільёна ЭКЮ, якія знаходзяцца ў рознай стадыі выканання. Завершаны праект стварэння Мінскага аптовага рынку; у стадыі завяршэння знаходзіцца праект у галіне тэлекамунікацый; працягваецца рэалізацыя праектаў па мадэрнізацыі Аршанскай электрастанцыі, рэканструкцыі шашы Брэст—Мінск—расійская мяжа. У рамках спецыяльнай крэдытнай лініі праз камерцыйныя банкі рэспублікі аказана фінансавая падтрымка больш як 20 праектам у сферы малога і сярэдняга бізнесу. Падтрымку менавіта прыватнага бізнесу праз беларускія камерцыйныя банкі ЕБРР лічыць прыярытэтным накірункам сваёй дзейнасці: адкрытая другая транша гэтага крэдыту ў памеры 15 мільёнаў долараў ЗША.

## «Пріорбанк» стане больш еўрапейскім

**Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця прыняў рашэнне аб куплі 27% акцый «Пріорбанка».**

Паводле звестак, выніковае рашэнне аб уваходжанні ў склад акцыянераў «Пріорбанка» крэдытны камітэт ЕБРР прыме ў кастрычніку гэтага года на падставе вынікаў міжнароднага аўдыту ў «Пріорбанку». Паводле папярэдняга заключэння міжнароднай аўдытарскай кампаніі «Эрнст&Янг», баланс «Пріорбанка» адпавядае стандартам ЕБРР.

*БелаПАН*

## Новыя нулі на старым чэку

**Намінальны кошт прыватызацыйнага чэка «Маёмасць» пастановай Савета міністраў павялічаны да 100.000 рублёў.**

Гэта ўжо не першая змена наміналу прыватызацыйных чэкаў (апошняя цана — 35.000 рублёў). Аднак павелічэнне наміналу не прывядзе да павышэння ні рэальнага кошту чэкаў, ні колькасці акцый прадпрыемстваў, на якія іх можна абмяняць. На сёння чэк можна прадаць прыкладна за 4 тысячы рублёў (безнаяўны кошт крыху вышэйшы — 5—6 тысячаў).

Варта адзначыць і тое, што колькасць прадпрыемстваў, на акцыі якіх можна абмяняць чэк, пасля 1 кастрычніка рэзка зменшылася — у аддзяленнях Ашчаднага банка засталіся акцыі толькі 65 прадпрыемстваў. На думку экспертаў, гэтыя акцыі не абяцаюць вялікіх прыбыткаў.

**Алесь САДОЎСКІ**




## Пікеты ў Жодзіне і Пінску

**Жодзінская арганізацыя БСДП (Народная Грамада) пры падтрымцы мясцовай арганізацыі БНФ з 30 верасня па 3 кастрычніка ладзіла пікеты салідарнасці з ахвярамі палітычных рэпрэсіяў.**

Удзельнікік пікетаў патрабавалі, у прыватнасці, вызвалення самых маладых вязняў рэжыму — 18-гадовага Аляксея Шыдлоўскага і 16-гадовага Вадзіма Лабковіча, якія знаходзяцца ў Жодзінскім следчым ізалятары.

Неспакой з прычыны акцый пратэсту праявіла мясцовае аддзяленне КДБ. 1 кастрычніка лідэр жодзінскіх сацыял-дэмакратаў Алесь Каралёў быў выкліканы на гутарку да маёра Валерыя Пятровіча. Калі ж Каралёў адмовіўся з'явіцца ў КДБ без пісьмовай позвы, па яго прыехалі на машыне і даставілі ў аддзяленне. Маёр Пятровіч «раіў» згарнуць пікетаванне і не ствараць напружанасць у горадзе. Маёр паабяцаў Каралёву, што такія сустрэчы будуць мець працяг. І сапраўды ўчора, 7 кастрычніка, Каралёва зноў выклікалі ў КДБ.

Тым часам у Пінску 2 кастрычніка сацыял-дэмакраты ладзілі пікет «У падтрымку ахвяраў рэжыму». Менавіта пад такой назвай пікет быў дазволены гарвыканкамам.

Напачатку пікетчыкі сумавалі: побач не было ніводнага «ахоўніка парадку», апаратаў КДБ і міліцыі. Але праз дзесяць хвілін усё змянілася — прыбылі дваццаць міліцыянтаў пад кіраўніцтвам начальніка гарадской міліцыі. Паглядзеўшы дазвол на правядзенне пікету, яны спачатку нават не паверылі, што гарвыканкам прызнае існаванне ахвяраў рэжыму. Убачыўшы такую колькасць міліцыянтаў, да пікетчыкаў пачалі падыходзіць людзі. Заявіўся таксама супрацоўнік КДБ, які дапытваўся, чаму гэта маладыя людзі ходзяць па крузе з завязанымі ратамі і заклаўшы рукі за галаву. Нарэшце завітаў і сам старшыня гарвыканкама. Ён спрабаваў завесці дыскусію з пікетчыкамі і давесці, што ў Беларусі пануе дэмакратыя і ўсе людзі жывуць добра. Зразумеўшы, што ён прайграе дыскусію і што людзі бяруць не ягоны бок, а бок пікетчыкаў, мэр спаслаўся на тэрміновыя справы і з'ехаў.

**Б.П.**

## Парафія – у падарунак свайму касцёлу

**Рыма-каталіцкі касцёл, што ў вёсцы Косава Івацэвіцкага раёна, да свайго юбілею атрымаў падарунак — рэстаўрацыю.**

Сёлета касцёлу споўнілася 120 гадоў. Ён быў пабудаваны па ініцыятыве вернікаў на сродкі памешчыка Пуслоўскага, якому належалі гэтыя землі, у тым ліку і вёска Марачоўшчына, дзе нарадзіўся нацыянальны герой Беларусі і Польшчы Тадэвуш Касцюшка. Апошнія 50 гадоў касцёл не рамантаваўся і страціў свой велічны выгляд, аднак у сваё 120-годдзе нарэшце дачакаўся рэстаўратараў. Работы ў будынку пачаліся па ініцыятыве ксяндза Дар'юша Блашчыка; дапамогу ў рэканструкцыі аказваюць некалькі майстроў з Польшчы; унутраныя роспісы рэстаўруе мастак Юрый Малышэўскі. Работы вядуцца на сродкі, сабраныя парафіянамі, аднак вернікі спадзяюцца і на дапамогу спонсараў.

*БелаПАН*

**ПРАВА ЧЕЛОВЕКА**

## Стоял на улице и обсуждал политику страны

**На сессии Комиссии ООН по правам человека, которая откроется 20 октября в Женеве, Республика Беларусь обязана представить доклад о принятых ей мерах по претворению в жизнь наших гражданских и политических прав.**



*Он тоже стоял на улице и обсуждал политику страны.*
*На снимке: захват одного из участников мирной демонстрации 23 марта 1997 г.*
*В этот день милиция арестовала более 100 человек.*

Доклад подготовлен Белорусским институтом информации и прогноза при администрациии президента РБ (Белинформпрогноз). В докладе утверждается, что за последнее время в нашей стране достигнут невиданный прогресс в развитии гражданского общества и правового государства — в особенности после принятия новой конституции на прошлогоднем референдуме.

Как мы уже знаем, «прогрессивность» новой конституции сводится к тому, что по ней президент РБ получил практически неограниченные полномочия, которые позволяют ему нарушать все и всякие права граждан, политических партий, общественных организаций и субъектов хозяйствования. И прикрывается все это именно конституционностью и волей самого народа.

Поэтому мы не будем анализировать сами тексты, подготовленные Белинформпрогнозом: их основные аргументы ежедневно в сотнях тысяч экземпляров тиражируются государственной прессой. Гораздо плодотворнее остановиться на тех реалиях, которые определили правовую деградацию белорусского общества за три года президентского правления.

Например, эксперты *Human Rights Watch/Helsinki* отмечают, что Александр Лукашенко повернул вспять почти все позитивные изменения в области прав человека, свобод и демократизации, которыми были отмечены эра перестройки и постсоветский период. Это выражается и в том, что СМИ вынуждены прекратить всякое выражение критики и в том, что преследуются и закрываются общественные организации, и в том, что оппозиция подвергается грубому и нецивилизованному давлению. Короче, Беларусь демонстрирует все более близкое и зловещее сходство с советским обществом, где, напомним, права человека всегда трактовались как «так называемые».

Но белорусские власти борются не только с институтами гражданского общества, они жестоко подавляет акции общественного протеста, препятствует осуществлению свободы совести, слова, организаций, уличных шествий и демонстраций. При этом меры, которые применяют милиция и судебные органы, отнюдь не направлены на восстановление общественного порядка: милиция избивает демонстрантов дубинками, кулаками и ногами, травит газом и проводит массовые аресты. Только в этом году незаконно задержаны сотни людей, часто не участвовавших в демонстрациях, с последующими обвинениями на основе ложной информации и лжесвидетельства. Кроме того, практикуется внесудебное преследование активистов.

Применяя такие методы, президент практически сделал невозможным мирный и конструктивный диалог по политическим вопросам между властями и оппозицией, общественностью и неправительственными организациями. Почти любую форму самоорганизации или независимого мышления он квалифицирует как «оппозицию» и стремится вырвать эту оппозицию с корнем. Таким образом Лукашенко вольно или невольно привел к политизации даже самые умеренные, аполитичные организации.

«Он стоял на улице и обсуждал политику страны», — так один из милиционеров аргументировал на суде факт задержания человека. При этом сам страж порядка признал, что находился далеко от обвиняемого и не мог объяснить суду, что именно тот говорил. Милиционеры вообще составляют большинство свидетелей, а свидетелей защиты на заседания, как правило, не вызывают.

Татьяну С. суд наказал административным арестом на 5 суток за то, что она, по словам свидетеля-милиционера, говорила: «Это моя страна, я буду стоять, где хочу». Татьяна вместе с подругой проходила мимо места проведения акции.

Эти и многие другие факты приводятся экспертами *Human Rights Watch/Helsinki*. Они нам также известны, но важно понимать и то, что все они стали достоянием мировой общественности. Поэтому представителям белорусского президента в Женеве придется туго: необходимо будет доказать, что он — не волк, съевший бабушку и Красную Шапочку. А клыки у него, дескать, для защиты обездоленных белорусов.

С тем и поедут в Европу.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

